ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№77 (4435) СУБОТА, 24 верасня 1994 года

Кошт па падпісцы — 8 руб., у розніцу — 30 руб.

## НГ-іНФАРМ

## На старт выклікаюцца настаўнікі

### НЕЎЗАБАВЕ ПАЧНЕЦЦА ПЕРШЫ ЭТАП III РЭСПУБЛІКАНСКАГА КОНКУРСУ ПРАФЕСІЙНАГА МАЙСТЭРСТВА ПЕДАГОГАЎ

Пачаўся новы навучальны год, а разам з ім конкурсны марафон аднаўляемых прафесійных спаборніцтваў педагогаў. Коратка напомнім чытачам гісторыю конкурсу. Першы конкурс "Настаўнік года" адбыўся у 1991 годзе. Яго пераможцамі сталі В.А.Гербутаў, У.М.Дзядкоў, С.І.Ляпешкін, С.Г.Крупенька і К.П.Паўлюць. Дарэчы, першы з іх носіць тытул "Настаўнік года СССР". Суперфіналісты конкурсу 1992 года: Н.Я.Бястолкава, В.Л.Варанцоў, Ю.К.Войтава, А.С.Кароза, В.А.Крывашэеў, Ю.У.Маслаў. Юрый Усеваладавіч Маслаў — пераможца конкурсу.

У тыя гады педагагічная грамадскасць у большасці станоўча ацэньвала конкурс, бо ён садзейнічаў павышэнню прэстыжу педагагічнай прафесіі, самарэалізацыі педагогаў, выявіў многа таленавітых настаўнікаў, вопыт якіх цяпер паспяхова распаўсюджваецца. Па матэрыяльных і арганізацыйных абставінах рэспубліканскі конкурс больш не праводзіўся (раённыя і гарадскія конкурсы ў шэрагу месц працягваюцца да гэтага часу). Аднак у апошні год многія педагогі і арганізатары адукацыі выказвалі пажаданні аднавіць спаборніцтвы педагогаў, што, на іх погляд, спрыяла б пошуку таленавітых настаўнікаў, развіццю педагагічнай творчасці. Таму Міністэрствам адукацыі прынята рашэнне аб правядзенні на працягу бягучага навучальнага года III Рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства педагогаў.

У Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі распрацаваны праект Палажэння аб конкурсе, які ўлічвае вопыт папярэдніх конкурсаў і тэндэнцыі развіцця педагагічнай практыкі. Аўтары імкнуліся, каб конкурс у большай ступені ацэньваў прафесійнае майстэрства настаўнікаў, а ў меншай ступені іх артыстычныя здольнасці. Многія апаненты папярэдніх конкурсаў, дарэчы, адзначалі, што часта яны нагадвалі эстраднае шоу.

Праект Палажэння шырока абмяркоўваўся ва ўстановах і органах адукацыі, пасля дапрацоўкі ён змешчаны ў "Настаўніцкай газеце" (7 мая 1994 года). У канцы чэрвеня Палажэнне амаль без змяненняў зацверджана Міністэрствам адукацыі. У адпаведным загадзе міністра зацверджаны таксама састаў аргкамітэта (старшыня — А.І.Жук, рэктар ІПК), журы фінальнага этапу конкурсу (старшыня — А.І.Кочатаў, доктар педагагічных навук, прафесар). Загад міністра з адпаведнымі дадаткамі накіраваны на адрас абласных і Мінскага гарадскога ўпраўлення ў адукацыі.

Згодна з Палажэннем у конкурсе ўдзельнічаюць педагагічныя работнікі школ, дашкольных і пазашкольных устаноў, а таксама выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, якія па сумяшчальніцтву працуюць у навучальных установах. Стаж работнікаў і ўзрост удзельнікаў не прымаюцца да ўвагі. Удзел у конкурсе з'яўляецца добраахвотным.

Першы этап конкурсу праводзіцца ў кастрычніку—лістападзе ў навучальных установах, для чаго загадзя там ствараюцца аргкамітэт і журы. Да 20 снежня на адрас раённага (гарадскога) конкурсу дасылаецца заяўка на ўдзел у ім педагогаў навучальных устаноў. Калі ў школе (дзіцячым садзе, станцыі юннатаў і інш) конкурс не праводзіцца, то педагог, які выказаў жаданне ўдзельнічаць у конкурсе, высылае сваю індывідуальную заяўку.

Другі этап праводзіцца ў студзені.

Прыведзеныя вытрымкі з Палажэння сведчаць аб тым, што часу на падрыхтоўку яго першых этапаў засталося вельмі мала. Таму пажадана неадкладна ва ўстановах і аддзелах стварыць аргкамітэты, журы, працаваць над конкурснай праграмай.

Падчас папярэдніх конкурсаў метадысты і арганізатары адукацыі, педагогі, якія займаліся конкурсам, назапасілі цікавы вопыт яго правядзення. Акрамя конкурсных урокаў, дэманстрацыі сваіх метадычных напрацовак, тэстыравання, прымяняліся конкурсы ідэй, абарона адукацыйных праектаў, дэманстрацыі сваіх захапленняў.

Напрыклад, у маі 1994 года аддзел адукацыі Першамайскага раёна Віцебска правёў адметны конкурс педагагічнага майстэрства маладых настаўнікаў. У праграме конкурсу, якую падрыхтавалі ў раённым метадычным кабінеце, было вельмі многа цікавых этапаў: аб'явы на школьную тэму, "педагагічная тэхніка", "педагагічныя сітуацыі", "педагагічны слоўнік", "рэклама педагагічных ідэй", "псіхалагічны тэст — ці ведаем мы адзін аднаго", "комплекс педагагічных уздзеянняў" і інш.

Можна спадзявацца, што арганізатары конкурсу праявяць свае творчыя здольнасці і створаць цудоўнае свята прафесійнага майстэрства і ўзаемін у сваёй школе, раёне або горадзе.

Мы ўпэўнены, што знойдуцца спонсары, якія падтрымаюць ідэю конкурсу і заахвоцяць яго пераможцаў.

Будзем рады, калі зможам даць арганізатарам конкурсу парады і рэкамендацыі (тэл.27-62-16).

Мікалай ЗАПРУДСКІ,
загадчык
арганізацыйна-метадычнага
аддзела Інстытута
павышэння кваліфікацыі і
перападрыхтоўкі кіруючых
работнікаў і спецыялістаў
адукацыі.

## МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

21—23 верасня ў Доме настаўніка адбылася Міжнародная канферэнцыя выкладчыкаў англійскай мовы. Канферэнцыю адкрыў міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў.

Выкладчыкі англійскай мовы з навучальных устаноў розных тыпаў атрымалі магчымасць сустрэцца са сваімі калегамі, абмяняліся прафесійным вопытам.

На канферэнцыі працавалі сем секцый: "Праблемы развіцця сучаснай англійскай мовы", "Сучасныя тэхналогіі выкладання англійскай мовы", "Дзелавая англійская мова" і іншыя.

У канферэнцыі прынялі ўдзел госці з Польшчы, ЗША, Вялікабрытаніі, з краін Прыбалтыкі, з Украіны, Малдовы, Расіі. Яны таксама прывезлі цікавыя методыкі і распрацоўкі, планы ўдасканалення сваёй прафесійнай падрыхтоўкі.

Была наладжана выстава кніг на англійскай мове, выдадзеных беларускімі выдавецтвамі. Экспанавалася мастацкая даведачная літаратура, а таксама літаратура па краіназнаўству, падручнікі для розных тыпаў навучальных устаноў. Сваю экспазіцыю кніг на англійскай мове паказалі і замежныя госці.

Галіна СІДАРОВІЧ.

## Васіль СТРАЖАЎ:

## "Мы будзем будаваць нацыянальную школу"

**Якой быць школе? Што ў ёй сёння неабходна змяніць? Якім напрамкам, якім шляхам ісці далей? Як сёння працаваць настаўніку? Як падтрымаць моцных вучняў, а таксама слабых і зрабіць так, каб і яны аказвалі станоўчы ўплыў на навучальна-выхаваўчы працэс у школе? Наогул, якім павінен быць змест адукацыі?**

Пра гэта ішла размова на сустрэчы міністра адукацыі Васіля Стражава і начальніка ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Генадзя Пятроўскага з настаўнікамі школ Маскоўскага раёна сталіцы, якая адбылася 21 верасня ў 41-й школе.

Перад тым, як сустрэцца з настаўнікамі, госці мелі амаль гадзіну размовы са старшакласнікамі, якія выказалі шэраг заўваг, адзначылі недасканаласць навучальных праграм некаторых школьных прадметаў, такіх, як гісторыя, матэматыка, інфарматыка, замежная мова, унеслі слушныя прапановы па ўдасканаленні навучальна-выхаваўчага працэсу. Міністр прыняў размову да ведама і паабяцаў старшакласнікам праз нейкі час зноў сустрэцца з імі.

Да дыскусіі па праблеме зместу адукацыі заклікаў міністр і настаўнікаў. Вы, сказаў ён ва ўступным слове, як ніхто іншы выдатна ведаеце школу, вам, як нікому іншаму, лепей бачны яе недахопы, а таксама станоўчыя бакі. Відавочна адно: патрэба ў рэфармаванні школы наспела даўно, яшчэ ў 80-я гады. Пра гэта выказваліся думкі і ў межах былога СССР. І калі па вышэйшай школе была прынята пастанова ЦК КПСС 1987 года, то ў адносінах сярэдняй справа скончылася амаль нічым. Адбыўся з'езд настаўнікаў — і ўсё. А ў незалежнай суверэннай дзяржавы, якой стала Беларусь, безумоўна, узнікаюць свае мэты і задачы, якія адпавядаюць толькі гэтай дзяржаве. Нават калі б у нас было ўсё цудоўна, трэба разумець, што нам у спадчыну дасталася школа зусім іншай краіны, іншага грамадства. Гэта істотны момант, які мы яшчэ не ўсвядомілі. Вялікая краіна і малая — гэта розныя патрабаванні да сістэмы адукацыі, патрабаванні ў сэнсе якасці навучання: чаму і як вучыць? Возьмем, напрыклад, Данію. У адрозненне ад той жа Францыі або Германіі сістэма адукацыі гэтай невялікай краіны мае мноства шматлікіх нюансаў, зусім іншых падыходаў, скажам, да кіравання школай і г.д. Тут як з вопыту ў палітыцы: можна мець правільную мэту і ісці да яе няправільнымі сродкамі. І вось тыя нюансы якраз і звязаны з выбарам сродкаў.

На мой погляд, зазначыў міністр, у свеце можна выдзеліць тры тыпы адукацыйнай сістэмы: савецкая, заходнееўрапейская і амерыканская. Савецкая і амерыканская — гэта, бадай, два палюсы. Заходнееўрапейская мадэль уключае ў сябе і тое і другое. Сёння карысна будзе параўнаць, што станоўчае маем мы, і што маюць яны там — за мяжой. Каштоўны вопыт выкарыстаем. У чым моц той жа амерыканскай сістэмы адукацыі? У тым, што яна дае кожнаму вучню поўнае права выбару: што вучыць і як вучыць, і разлічана на моцных вучняў. Але гэта для 10—15 працэнтаў. Значыць, з амерыканскай сістэмы адукацыі нам ёсць што ўзяць для лепшых вучняў.

Чым амерыканская школа, разважаў далей міністр, адрозніваецца ад той жа заходнееўрапейскай? Амерыканцы — мы гэта ведаем і з літаратуры, ды так яно і на самай справе — адчайныя патрыёты сваёй краіны. Ідэалогіі там няма ніякай. А дакладней, ідэалогія ёсць — яна адна: кожны павінен спадзявацца толькі на сябе, каб заняць дастойнае месца ў жыцці. Тым не меней краіна выхоўвае патрыётаў. А калі глыбей задумацца, дык вызначаецца ключавы пункт выхаваўчай сістэмы амерыканскай школы. Там у аснове выхавання — школа. Асноўная ідэя выхаваўчай канцэпцыі — выхаваць патрыёта школы, прывязаць чалавека да школы. Будзе ён патрыётам школы — будзе і патрыётам краіны.

Заходнееўрапейская сістэма адукацыі сёння перажывае свае праблемы. Дарэчы, церпіць крызіс адукацыя ўсіх краін. Так было заўсёды. Сама па сябе сістэма адукацыі заўсёды кансерватыўная. І гэта добра. Інакш яна сябе даўно б знішчыла, можна змяніць усё за год. Кансерватызм жа нясе за сабой пастаяннае пачуццё незадаволенасці: грамадства мяняецца, а сістэма адукацыі не так хутка, як хацелася б.

Зараз міністэрства распрацавала стратэгію рэформы агульнаадукацыйнай сістэмы. Прэзідэнту і ўраду стратэгія рэфармавання школы ўжо прадстаўлена ў сціслай форме. Калі гаварыць аб рэвалюцыйнай форме стратэгіі, падкрэсліў міністр, адна з праблем, якая выходзіць на першы план — пераход да 12-гадовай школы. Сярод развітых краін у Еўропе засталося толькі тры краіны з 11-гадовай школай — Беларусь, Украіна і Расія. У межах сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі, і гэта яскрава пацвердзіла практыка, для дзяржавы і грамадства выгадна як можна болей трымаць маладога чалавека ў межах школы. З аднаго боку — гэта забяспечыць яму сацыяльную абарону, падрыхтуе яго да дарослага жыцця, а ў канчатковым выніку — гэта значна танней для дзяржавы і грамадства. Асноўныя расходы нясе сям'я.

Выказваліся думкі наконт асноўнай ідэі школы. Такой ідэяй раней было працоўнае навучанне. Ідэя была няправільнай, таму і правалілася. Школа павінна рыхтаваць вучняў не да працы, а да жыцця. Да жыцця ў тым грамадстве, у якім яна існуе.

Пытанні настаўнікаў міністру яскрава акрэслілі набалелыя праблемы школы. Была ўзнята праблема падручнікаў, школьных праграм, заработнай платы і г.д. Як высветлілася, вельмі хвалюе настаўніка лёс беларускамоўнага навучання. Якой мове будзе надавацца перавага?

— Беларуская мова будзе асноўнай мовай навучання, — адказаў міністр. — Дзеці, якія не будуць вывучаць і ведаць беларускую мову, будуць мець меншыя шанцы ў жыцці. Пойдзем па шляху беларусізацыі. На Закон аб мовах нам дадзена дзесяць гадоў. У нас ёсць яшчэ час — шэсць гадоў наперадзе.

Святлана БЕНЬ.

## ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА РАДЫ ДЫРЭКТАРАЎ ШКОЛ БЕЛАРУСІ

Чарговае пасяджэнне прэзідыума Рады дырэктараў школ Беларусі адбудзецца 26—28 верасня 1994 г. у Баравухскай сярэдняй школе Полацкага раёна Віцебскай вобласці.

Даведкі і заяўкі на ўдзел па тэлефонах: (код 8-02144) 9-73-45; 9-74-38; 9-72-85.

Прыезд у Полацк (гасцініца "Дзвіна") 26 верасня да 14 гадзін.

## НАВІНЫ З ПТВ

### ДЭСАНТ НА БУЛЬБУ

**Нягледзячы на засуху летам, што істотна знізіла ўраджайнасць бульбы, уборачная кампанія набірае тэмпы.**

Амаль што ва ўсе раёны Мінскай вобласці накіраваліся на ўборку і навучэнцы сталічных ПТВ.

Сёлета 18 вучылішчаў прадаставілі для сельскагаспадарчых работ каля 2,5 тысячы пэтэвушнікаў.

Кіраўніцтва калгасаў і саўгасаў Міншчыны патурбаваліся аб харчаванні і пражыванні падлеткаў.

Мінскія ПТВ №№ 38 і 94 паехалі ў Віцебскую вобласць, з гаспадаркамі якой даўно наладзілі цесныя сувязі.

### ПАКУЮЦЬ РУКЗАКІ

**Пакуюць свае рукзакі юныя турысты з Мінскага ПТВ № 71 машынабудавання. Днямі ў пасёлку Ратамка ўжо каторы год запар пачнецца восеньская турыяда. Туды паедуць не толькі аматары турыстычных маршрутаў, але і "балельшчыкі": майстры вытворчага навучання, выкладчыкі, навучэнцы ўсіх курсаў.**

Ініцыятарам і арганізатарам такога спаборніцтва стаў кіраўнік турыстычнага клуба вучылішча Леанід Грыгаркевіч.

У праграму сёлетняй турыяды ўвойдуць паласа перашкод, спартыўнае арыентаванне, футбол.

Падрыхтаваны ўжо прызы і сувеніры для пераможцаў.

### НОВАЕ ВЫШЭЙШАЕ

**Сёлетні навучальны год сталічнае ПТВ №222 гандлю пачало ў новым статусе вышэйшага.**

Упершыню 25 лепшых навучэнцаў гэтай установы, паспяхова закончыўшы першую двухгадовую ступень навучання, змогуць прадоўжыць сваю вучобу на другой ступені тэрмінам 1 год і 5 месяцаў. За гэты час яны набудуць веды па камерцыйнай дзейнасці ў сферы рынку і атрымаюць прафесію камерсант.

Для навучання тэхнікумаўскай групы загадзя былі падрыхтаваны навучальныя планы і праграмы, кабінеты, а самае галоўнае: ёсць ужо дамоўленасць па пытаннях праходжання вытворчай практыкі і працаўладкавання выпускнікоў з буйнейшымі гандлёвымі цэнтрамі сталіцы.

Ала КЛЮЙКО.

## АБ ТЫМ, ШТО ХВАЛЮЕ

## ЗНОЎ "ЛІПА"?

Нядаўна ў Пінску ў размове з настаўнікамі ўсплыла старая хвароба савецкай сістэмы адукацыі, якую, як лічыў, даўно пераадолелі: гарана абавязвае ставіць тройку там, дзе заслужана цвёрдая двойка.

Сапраўды, яшчэ старшыня Дзяржадукацыі ў былым СССР Г.Ягадзін, здавалася б, вырашыў гэтую праблему. Калі вучань ведае прадмет на двойку, дык менавіта так і трэба гэтыя веды ацэньваць. А каб не ствараць псіхалагічныя напружанні сядзеннем па некалькі гадоў у адным класе, трэба пераводзіць у наступны клас з двойкамі. Дакладней кажучы, не двойкі ставіць, а не атэставаць па адпаведных прадметах, што не павінна быць падставай для другагодніцтва.

Праблема, безумоўна, не такая простая, як здаецца на першы погляд. У прыватнасці, двойкі ў выпускных (9-х) класах базавай школы зачыняюць дзверы ў дзесяты клас альбо ПТВ. 15-гадовы падлетак аказваецца на вуліцы, папаўняючы рады правапарушальнікаў. І ў гэтым сэнсе можна зразумець той жа гарана, на які цісне гарвыканкам.

Але хацелася б напомніць заступнікам ліпавых троек, што школа павінна даваць не толькі веды, але і займацца выхаваннем. А калі вучань ведае, што настаўнік вымушаны будзе ў канцы года паставіць тройку, гэта катастрафічна разбуральна ўплывае на яго выхаванне. Асобныя вучні літаральна здзекуюцца над настаўнікамі і школай.

Тэарэтыкі скажуць, што двойка не павінна быць бізуном у выхаванні. Настаўнік-прафесіянал мае шмат сродкаў уплыву на вучня. Усё гэта правільна. Але правільна і тое, што кожнае правіла мае выключэнні ці абмежаванні.

Увесь свет даўно знайшоў вырашэнне ўзнятай праблемы. Хвароба гэтая засталася толькі ў постсавецкай педагогіцы. Які ж выхад?

Падлетак да 16 гадоў павінен знаходзіцца ў школе. А потым — альбо вучыцца далей, альбо ісці працаваць. Пры гэтым ад таго, якія веды ён набыў у школе, залежыць яго далейшы лёс. Савецкая педагагічная ідэалогія аб тым, што школа заклікана вучыць дзяцей — недарэчная. Школа павінна даць магчымасць вучыцца, а настаўнік-прафесіянал — абуджаць у дзяцей натуральную прыродную цікавасць да ведаў, да пазнання. Грамадства і дзяржава абавязаны высока трымаць статус адукаванага чалавека. Але ж урэшце рэшт, вучыцца альбо не вучыцца — выбар самога чалавека. Кожнае дзіця павінна ведаць, што яго месца ў жыцці, сацыялізацыя вызначаюцца галоўным чынам яго поспехамі ў школе.

І ў педагогіцы, і ў грамадстве многія зараз лічаць, што адыход наш ад былой 10-гадовай абавязковай адукацыі — крок назад. Не магу з гэтым пагадзіцца. Не было ў нас усеагульнай дзесяцікласнай адукацыі. Мы, як і ў многім іншым, рабілі выгляд, што такая адукацыя існуе. А фактычна ў значнай колькасці выпускнікоў адзнакі ў атэстатах не адпавядалі атрыманым ведам. Вось так: на паперах сярэдняя адукацыя была, а ведаў у галовах многіх выпускнікоў не набіралася на ўзровень 6—7 класаў.

Рэформы, якія праводзяцца ў нашым грамадстве, непазбежна павысяць асабістую ролю кожнага ў будаўніцтве свайго жыцця, вызначэнні свайго лёсу. Таму сёння патрабуецца зусім іншае: 10-гадовае (з 6 да 16) знаходжанне ў школе. А ў выпускным атэстаце павінны быць зафіксаваны тыя веды, якія выпускнік сапраўды набыў за гэтыя дзесяць гадоў. І ў залежнасці ад аб'ёму і якасці гэтых ведаў, ад сваіх адносін да вучобы і навакольнага асяроддзя падлетак вызначае свой далейшы жыццёвы шлях.

Уладзімір ВАЛАДЗЬКО,
дырэктар
Нацыянальнага
інстытута адукацыі,
доктар педагагічных
навук.

ПУБЛІКУЕЦЦА ЎПЕРШЫНЮ

## БЕЛАРУСКІ УНІВЕРСІТЭТ ПАВІНЕН БЫЦЬ БЕЛАРУСКІМ

**Паважаныя чытачы! Вашай увазе прапануецца дакумент, пазначаны аўтарам грыфам "Зусім сакрэтна", хоць нічога сакрэтнага, на наш погляд, у ім няма.**

**Гэта ліст рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта Уладзіміра Іванавіча Пічэты ў Наркамасветы БССР. Дата напісання ліста — 1928 год, 11 чэрвеня.**

**У лісце рэктара — трывога за лёс беларускасці, за лёс навукоўцаў, якія былі аднадумцамі і разам з рэктарам многа зрабілі для ўсталявання нацыянальнага духу ў БДУ.**

Ужо чацвёрты год у рэспубліцы праводзілася беларусізацыя, якая набыла статус дзяржаўнай палітыкі з ліпеня 1924 года, пасля пленума ЦК КП(б)Б і сесіі ЦВК БССР, зацвердзіўшых пастанову "Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі".

"Асноўным пытаннем беларусізацыі з'яўляецца пытанне аб беларускай мове", — падкрэслівалася ў рэзалюцыі пленума ЦК КП(б)Б (студзень 1925 г.) "Чарговыя задачы ў нацыянальнай палітыцы". У рэспубліцы, дзе карэннае насельніцтва складала 80%, гэта была правільная пазіцыя. Раўнапраўнымі таксама прызнаваліся тры мовы нацменшасцяў у БССР: яўрэйская, расейская, польская (адпаведна працэнт насельніцтва: яўрэяў — 8,2%, расейцаў — 7,7% і палякаў — 1,96 (на падставе перапісу 1926 г. пасля далучэння Гомельшчыны).

Вядома, для такой навучальнай установы, як БДУ, задача беларусізацыі з'яўлялася надзвычай актуальнай. Вялікая заслуга ў тым, што родная мова загучала ў студэнцкіх аўдыторыях, належыць першаму рэктару Беларускага універсітэта У. І. Пічэце. Гэта быў вучоны, выхаваны на лепшых традыцыях Маскоўскага універсітэта. Не будучы беларусам па нацыянальнасці, ён займаўся даследаваннем гісторыі і культуры Беларусі. Стаўшы рэктарам БДУ, Пічэта авалодаў беларускай мовай, пачаў пісаць працы і чытаць лекцыі на беларускай мове. Акрамя таго, ён быў прапагандыстам і папулярызатарам беларускай мовы. У 1923 г. Пічэта напісаў невялікую кніжачку "Беларуская мова як фактар нацыянальна-культурны", у якой пераканаўча даказаў наяўнасць існавання беларускай мовы, вартай таго, каб не быць ігнараванай і забытай.

Пічэта глыбока ўспрымаў нацыянальна-адраджэнскія ідэі і разумеў ролю інтэлігенцыі ў працэсе іх практычнага ажыццяўлення. Ён многа зрабіў для падрыхтоўкі нацыянальна свядомых працаўнікоў, неабходнасць якіх так востра адчувалася ў рэспубліцы. Перш за ўсё Уладзімір Іванавіч добрасумленна імкнуўся падабраць адпаведны навуковы персанал новай вышэйшай установы, прыцягнуўшы да выкладання таленавітых беларускіх вучоных. У БДУ выкладалі У. М. Ігнатоўскі, М. В. Доўнар-Запольскі, Ф. Ф. Турук, А. А. Савіч, А. А. Смоліч, З. І. Даўгяла, І. І. Краскоўскі, Я. Ю. Лёсік, М. М. Піятуховіч, В. Д. Дружчыц, П. В. Трамповіч і іншыя. Дарэчы, У. М. Ігнатоўскі быў першым дэканам факультэта грамадскіх навук, а затым педфака і членам першага праўлення БДУ.

У рэспубліку таксама запрасілі вучоных з розных куткоў РСФСР, якія ўспрынялі традыцыі беларусаў, паставілі свае веды і вопыт на службу беларускаму народу. Гэта М. М. Шчакаціхін, А. М. Ясінскі, А. М. Вазнясенскі, І. І. Замоцін, Я. І. Барычэўскі і інш.

Ужо ў 1924-25 навучальным годзе былі зроблены першыя крокі ў правядзенні беларусізацыі. Планам універсітэта быў нададзены краязнаўчы ўхіл. На рабфаку ўведзены лекцыі па беларусазнаўству. У наступныя гады лінія на ўвядзенне ў навучальныя планы дысцыплін, якія вывучалі Беларусь, працягвалася. Прыкладаліся намаганні па пераходу да выкладання іншых прадметаў на беларускую мову. Прафесар БДУ М. М. Піятуховіч успамінаў: "Памятаецца, асаблівы скептыцызм выяўлялі некаторыя асобы ў адносінах да выкладання ва Універсітэце на беларускай мове. Невялікай жменьцы беларускіх працаўнікоў (прафесар Ігнатоўскі, дацэнт Я. Ю. Лёсік і пішучы гэтыя радкі) тут сапраўды прыходзілася быць піянерамі зусім новай справы...

Але ў першыя гады існавання моцна яшчэ давала сябе адчуваць улада традыцый; выкладанне на беларускай мове разглядалася некаторымі асобамі як кур'ёз, ім не мыслілася, як гэта можна вышэйшую навуку ў вышэйшай установе выкладаць на "мужыцкай" мове... Але паступова скептыцызм таяў". (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Мн. 1927. С. 58 — 59).

Выкладанне прадметаў у БДУ было беларусізавана ў 1925-26 навучальным годзе на 14%, у 1926-27 — на 31%, (у іншых крыніцах называецца лічба 21,8%. ДАРБ, ф. 101, воп. 1, спр. 2934, арк. 50) у 1927-28 годзе — на 42,8% (Практычнае вырашэнне нацыянальнага пытання. С. 59, 61, ДАРБ, ф. 101, воп. 1, спр. 2934, арк. 50). Найбольш станоўчыя зрухі былі на педфаку БДУ, марудна пераходзілі на беларускую мову факультэт права і гаспадаркі. Мінаў год за годам, праходзілі назначаныя тэрміны, а пераход выкладчыкаў на беларускую мову выкладання ўсё адцягваўся.

А наперадзе ж быў 1928-29 навучальны год — год завяршэння беларусізацыі ў вышэйшых навучальных установах.

Адным з напрамкаў беларусізацыі была карэнізацыя — павелічэнне прадстаўнікоў карэннай, беларускай нацыянальнасці сярод выкладчыкаў і студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў. Як жа абстаялі справы ў БДУ? Для ілюстрацыі прывядзём наступныя дадзеныя.

Сярод 60 выпускнікоў першага выпуску БДУ было: беларусаў — 19, яўрэяў — 38, рускіх — 2, татар — 1. Нацыянальны склад другога выпуску быў такі: беларусаў — 63, яўрэяў — 111, рускіх — 7, палякаў — 1, іншых — 2 (усіх — 184). Сярод прынятых у 1927—28 годзе беларусаў было 54%, яўрэяў —38%, рускіх — 4,5%, палякаў —1,2%, інш. —1,7%. Аб нацыянальным складзе студэнтаў БДУ у 1927-28 н.г. дае ўяўленне наступная табліца:

| Фак-т / Нац. | Бел. | Яўр. | Рус. | Пал. | Інш. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Педфак | 830 | 291 | 61 | 23 | 24 | 1229 |
| Медфак | 338 | 311 | 45 | 3 | 11 | 708 |
| Праўгас | 250 | 260 | 10 | 15 | 10 | 545 |
| Усяго | 1418 | 862 | 116 | 41 | 45 | 2482 |

Прыём 1927-28 н.г. даў павелічэнне студэнтаў-беларусаў на 2,2% у параўнанні з мінулым навучальным годам.

Нацыянальны склад навуковых працаўнікоў БДУ у 1927-28 годзе гаворыць аб перавазе выкладчыкаў некарэннай нацыянальнасці.

| Фак-т / Нац. | Бел. | Яўр. | Рус. | Пал. | Інш. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Педфак | 31 | 16 | 23 | 2 | 2 | 74 |
| Медфак | 37 | 47 | 27 | 2 | 3 | 116 |
| Праўгас | 6 | 9 | 12 | 1 | 1 | 29 |
| Усяго | 74 | 72 | 62 | 5 | 6 | 219 |

Павелічэнне ліку навуковых працаўнікоў-беларусаў за апошнія два гады быў нязначным:

| | 1926-27 н.г. | 1927-28 н.г. |
|---|---|---|
| Прафесараў | 5 | 6 |
| Дацэнтаў | 12 | 18 |
| Асістэнтаў | 26 | 29 |
| Ардынатараў | 22 | 21 |

(Працяг на 2-й стар.).

ПУБЛІКУЕЦЦА ЎПЕРШЫНЮ

# БЕЛАРУСКІ УНІВЕРСІТЭТ ПАВІНЕН БЫЦЬ БЕЛАРУСКІМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Такім чынам, з прыведзеных дадзеных бачна, што колькасць студэнтаў і навуковых працаўнікоў-беларусаў павялічвалася вельмі марудна. Гэта было ніжэй удзельнай вагі беларусаў у агульнай колькасці насельніцтва. На ўсіх факультэтах пераважалі навуковыя працаўнікі некарэннай нацыянальнасці. Гэтым і тлумачацца нізкія тэмпы беларусізацыі, рэзка-адмоўныя, вялікадзяржаўна-шавіністычныя адносіны да беларускай мовы з боку выкладчыкаў універсітэта, асабліва вышэйшай кваліфікацыі.

Як вядома, КП(б)Б ставіла задачу ўзначаліць працэс нацыянальна-культурнага адраджэння. "Уся КП(б)Б павінна гаварыць па-беларуску", — такі лозунг быў абвешчаны на кастрычніцкім (1926 г.) пленуме ЦК. Загадчык АПА ЦК КП(б)Б С.М.Гессэн, выступаючы на канферэнцыі камуністычнага студэнцтва 9 лістапада 1925 г., звярнуўся да партыйцаў з такой прамовай: "Будет ошибкой, если белорусская интеллигенция будет требовать: "Давай белорусизацию!", будет напирать на нас, а мы будем отступать и не проявлять инициативы. Мы должны инициативу в области белорусизации взять на себя. Наша партия должна быть гегемоном в области национального движения, и это относится в частности к вопросу о белорусизации в вузах" (НАРБ, ф.4, воп.7, спр.82, арк.105).

Знаёмства з архіўнымі дакументамі — матэрыяламі партыйных ячэек універсітэта дае падставу зрабіць выснову, што партыйцы не толькі не ўзначалілі беларусізацыю, але ўсяляк тармазілі яе. Так было і на пачатку і ў канцы 20-х гадоў. "Партыйныя арганізацыі БДУ (1926-1927 гг.) не былі падрыхтаваны праводзіць беларусізацыю. З партыйцаў амаль што ніхто не ведаў бел.мовы", — пісаў дэкан педфака, член камфракцыі праўлення БДУ Я.К.Успенскі. Камфракцыя праўлення БДУ у сваёй пастанове ад 1 кастрычніка 1927 г. канстатавала, што "партыйцы — навуковыя працаўнікі... з'яўляюцца адсталай групай у правядзенні ў жыцці нацыянальнай палітыкі" (НАРБ, ф.12, воп.1, спр.475, арк.3).

Праціўнікі беларусізацыі пачалі барацьбу супраць беларускіх дысцыплін, супраць навуковых працаўнікоў-беларусаў на педфаку, дзе пераход на беларускую мову выкладання ішоў больш шпаркім тэмпам. Першая спроба была зроблена ў 1925-26 навучальным годзе, але яна пацярпела няўдачу. Умяшаўся наркамат асветы. Быў зняты дэкан педфака М.М.Нікольскі, які сабатаваў беларусізацыю. Яго замяніў М.М.Піятуховіч. Але барацьба працягвалася і ў наступныя гады.

Пасля разгрому трацкісцкай апазіцыі БДУ атрымаў папаўненне "марксістаў" — І.Е.Рыўліна, М.С.Югава, М.Б.Гольмана. Не трэба думаць, што яны кінуліся вывучаць беларускую мову. Наадварот, яны папоўнілі шэрагі тых, хто перашкаджаў беларусізацыі.

У гэтыя гады адказным сакратаром камфракцыі праўлення БДУ быў намеснік рэктара па адміністрацыйна-гаспадарчай частцы С.З.Слонім. Ён і ўзначальваў паход супраць беларусізацыі, супраць рэктара Пічэты і выкладчыкаў-прыхільнікаў беларушчыны. Вось чаму не знайшоў падтрымкі ў "сваёй", універсітэцкай партячэйкі рэктар. Вось чаму ён звяртаецца ў Наркамасветы, спадзяючыся знайсці яе ў наркама А.В.Баліцкага.

Праз дзесяць дзён пасля таго пасяджэння праўлення БДУ, аб якім піша У.І.Пічэта 14 чэрвеня 1928 г., камфракцыя праўлення заслухоўвала інфармацыю сакратара фракцыі Слоніма С.З. па тым самым пытанні аб праекце навучальных планаў на 1928-29 год. Пастанова была лаканічнай: "Інфармацыю прыняць да ведама і лічыць яе абсалютна сакрэтнай" (НАРБ, ф.4, воп.7, спр.198, арк.56—57). Аб лісце рэктара ў Наркамасветы камфракцыя, відаць, не ведала.

Яркай ілюстрацыяй адносін партыйцаў да беларусізацыі з'яўляецца абмеркаванне на тым самым пасяджэнні справаздачы камісіі па праверцы ведаў па беларускай мове. Прынятая пастанова гаворыць сама за сябе: "1) З прычыны таго, што шмат выкладчыкаў, асабліва партыйцаў, нягледзячы на падвойныя выклікі камісіі, яшчэ не прайшлі праверкі, згадзіцца, каб яшчэ раз, у панядзелак, 18.VI, адбылося пасяджэнне праверачнай камісіі. 2) Давясці да ведама ЦК аб тых партыйцах, якія не з'явяцца дзеля праверкі. 3) Нез'явіўшыхся на камісію беспартыйных, калі ў іх не было ўважлівай прычыны, зняць з працы ў БДУ". Дапісана ў пратаколе ад рукі — "паасобных працаўнікоў" (НАРБ, ф.12, воп.1, спр.725, арк.48).

З пратакола за 19 чэрвеня даведваемся, што сярод 13 чалавек, якія не з'явіліся на праверку, 4 — члены камфракцыі праўлення, у тым ліку і яе адказны сакратар — таварыш Слонім. Здзіўляюць і такія радкі пастановы: "Даручыць т.Пракапчуку праверыць, ці атрымалі гэтыя тт. своечасова позвы. Калі позвы былі ім уручаны і ніякай уважлівай прычыны іх няўкі няма, тады справу паставіць у бюро ячэйкі" (НАРБ, ф.12, воп.1, спр.725, арк.49). Усе чацвёра прысутнічылі на папярэднім пасяджэнні 18 чэрвеня. Які яскравы прыклад крывадушнасці! Вынік — праверка ведаў беларускай мовы пераносіцца на восень. Вось такі "гегемон в области национального движения!"

Абодва праекты навучальнага плана Педфака БДУ (У.І.Пічэты і С.З.Слоніма) абмяркоўваліся ў Наркамаце асветы БССР. Большая частка прапаноў рэктара была падтрымана. Праўда, курс гісторыі заходняга славянства выключылі з праграмы, засталася толькі гісторыя Польшчы на польскай секцыі.

Ворагі ж беларусізацыі не супакоіліся. Яны добра разумелі ролю У.І.Пічэты ў правядзенні беларусізацыі ў БДУ. Таму выступленні супраць яго працягваліся. Пічэту абвінавацілі ў беларускім нацыянал-дэмакратызме і заходняй арыентацыі. З гэтымі абвінавачваннямі выступіў на Усебеларускім з'езде навуковых работнікаў М.Б.Гольман і ў газеце "Рабочий" дацэнт І.Е.Славін, які патрабаваў "открыть ураганный огонь по всему фронту враждебной идеологии" ("Рабочий". 1929, 9 лют.).

"Я вельмі разумею гэта абвінавачванне, — адказаў У.І.Пічэта ў газетным артыкуле, — абодвум аўтарам зусім не пажадана пераходзіць на беларускую мову, якую яны павінны вывучыць. Нездарма дацэнт Гольман не раз заяўляў свае адмоўныя адносіны да беларускай мовы...".

"Лічу неабходным паведаміць тт.Славіна і Гольмана, што праўленне БДУ будзе і надалей праводзіць палітыку Камуністычнай партыі і што нацыянальная палітыка застанецца без змен...", — пісаў Пічэта.

Але, на вялікі жаль, змены адбыліся... Наступленне на "нацыянал-дэмакратаў", барацьба з "нацдэмаўшчынай", распачатыя з 1929 года, сведчылі пра адмову ад беларусізацыі, пра пачатак контрбеларусізацыі.

На падставе ліквідацыі "шматпрадметнасці", "националистического и иерхаического барахла" з вучэбных планаў выдалілі беларускія дысцыпліны. На працягу 1929—31 гг. усе лепшыя, перадавыя, нацыянальна свядомыя навуковыя працаўнікі (каля 30-ці чалавек) былі зняты з працы, як "праваднікі класава-варожай пралетарыяту ідэалогіі", "агентура класавага ворага". Большасць з іх была арыштавана па справе "Саюза вызвалення Беларусі" і асуджана на розныя тэрміны высылкі. З універсітэта было выключана звыш 200 студэнтаў. Гэта быў добра разлічаны стрэл у будучае беларускай нацыі, якая страціла лепшых прадстаўнікоў сваёй інтэлігенцыі. Разгром гуманітарных сіл універсітэта паспяхова ажыццяўляўся пасля зняцця яго рэктара, прафесара У.І.Пічэты. Плён нястомнай працы гэтага выдатнага арганізатара навуковага жыцця быў зруйнаваны. Дзесяцігоддзе універсітэта ў 1931 годзе было пазначана трагічнымі вынікамі, якія падаваліся як перамога "марксісцка-ленінскай метадалогіі".

У верасні 1930 г. У.І.Пічэта быў арыштаваны па справе акадэміка С.Ф.Платонава, які ўзначальваў навуковую школу пад назвай "пецярбургская школа рускіх гісторыкаў" або "школы Платонава". Характэрнай асаблівасцю гісторыкаў "школы Платонава" была аб'ектыўнасць і арыентацыя даследчыкаў на крыніцазнаўчы вышук, канкрэтнае вывучэнне гістарычнага матэрыялу. С.Ф.Платонаў быў лідэрам старой прафесуры. Абвінавачваліся яны па справе "Всенародного союза борьбы за возрождение свободной России".

У 1931 г. У.І.Пічэта быў сярод іншых асуджаных да высылкі ў Вятку. Некалькі раней ён быў выключаны са складу акадэмікаў БАН.

Аляксандра ГЕСЬ,
навуковы супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы.

ЗУСІМ САКРЭТНА

## У НАРОДНЫ КАМІСАРЫЯТ АСВЕТЫ БССР

Сакратару ЦК КП(б)Б
тов. КНОРЫНУ

По даручэнню Старшыні ЦВК БССР тав.А.Чарвякова пасылаецца Вам ліст Рэктара БДУ Пічэты на імя Наркамасветы БССР.

Заг. сакрэтным справаводствам
ЦВК БССР ГОМЗА

16.VI.1928 г.

У мінулы панядзелак, 4-га чэрвеня, было прызначана пасяджэнне Праўлення Універсітэта адносна абгаварэння навучальных планаў Педфака і факультэта права і гаспадаркі.

А 10-й гадзіне намеснік рэктара, т.Слонім, паведаміў мяне аб сваіх думках адносна неабходных змен як у навучальным плане, гэтак сама і наконт скарачэння цэлага шэрагу выкладчыкаў.

Дзякуючы невялікаму тэрміну, які заставаўся да пачатку пасяджэння, і дзякуючы таму, што ўсе гэтыя пытанні былі для мяне новымі, бо намеснік рэктара да 4-га чэрвеня не лічыў магчымым абгаварыць гэтыя пытанні, я не лічыў магчымым на пасяджэнні праўлення выступаць як з крытыкаю самога праекта навучальных планаў Педфака, а таксама адносна скарачэння персанальнага штата працаўнікоў. Мною толькі было адзначана, што гэткія скарачэнні ў сваёй большасці нічым не апраўданы і супярэчаць Палажэнню аб навуковых працаўніках.

Не крытыкуючы праекта т.Слоніма па думках палітычнага характару і не жадаючы, каб гэтыя спрэчкі і расходжанні былі прадметам публічнага абгаварэння ў Праўленні Універсітэта, нягледзячы на тое, што само пасяджэнне было абвешчана сакрэтным, я, вядома, не магу згадзіцца з яго прапановамі з прычыны таго, што яны вельмі шкадліва адаб'юцца як на пастаноўцы выкладання на Педфаку, гэтак сама і на самым Універсітэце ў яго персанальным складзе. Я не разглядваю пытання яб тым, наколькі правільным і мэтазгодным з'яўляецца абгаварэнне настолькі важнага пытання за палову гадзіны да пачатку пасяджэння. Мне здаецца, што было б мэтазгодным, калі маецца Рэктар, якому давярае Урад, і які, па думцы закона, нясе персанальную адказнасць за тое, што робіцца ва Універсітэце, вырашаць прынцыповае пытанне, якое не было прадметам абгаварэння з рэктарам, які, акрамя гэтага, загадвае навучальнаю часткаю. Мне здаецца, што гэткі метад вырашэння такіх прынцыповых пытанняў з'яўляецца няправільным і не адпавядаючым таму становішчу, якое займае рэктар Універсітэта, якому Урад Беларусі даручыў такую вялікую і адказную справу, як кіраванне Універсітэтам.

Каб несці поўную адказнасць за ўсё, што робіцца ва Універсітэце, для гэтага неабходна, каб рэктар Ун-та быў той асобаю, з якою можна гаварыць аб тых балючых пытаннях, якія належаць разглядванню. Было б няправільна, каб да ведама рэктара даводзілі аб тых ці іншых думках альбо прапазіцыях, якія ўжо прынцыпова былі вырашаны ва ўніверсітэцкіх палітычных арганізацыях.

Лічачы немагчымым падымаць усе гэтыя пытанні на пасяджэнні Праўлення Ун-та, я правёў пасяджэнне, не выказваючы сваіх думак па пытаннях, якія былі закрануты намеснікам рэктара. Аднак не згаджаючыся з цэлым шэрагам прапаноў т.Слоніма, я лічу неабходным зрабіць свае заўвагі адносна планаў, унесеных для разгледжання на пасяджэнні Праўлення.

З прычыны таго, што па гэтых пытаннях былі спрэчныя думкі праф.Піятуховіча яе дэкана факультэта, і што рэктар Ун-та не згаджаецца з цэлым шэрагам прапазіцый, мною дадзена было распараджэнне, каб Народнаму Камісарыяту Асветы БССР былі пасланы планы, якія былі складзены дэканам факультэта, а таксама планы, якія абгаварваліся на пасяджэнні Праўлення Ун-та.

Прымаючы пад увагу гэтыя думкі, я лічу неабходным адносна навучальных планаў выказаць наступнае.

Беларускі Дзяржаўны Універсітэт з'яўляецца Універсітэтам краявым. Такім ён быў з моманту заснавання яго. На працягу 7 год яго краявое значэнне, дзякуючы пашырэнню навучальных планаў і павелічэнню агульнага ліку выкладчыкаў усё больш і больш пашыралася. Гэта перш-наперш выражалася ў тым, што цэлы шэраг выдатных прадстаўнікоў, беларусаў па паходжанню, быў прыцягнены да працы ва Універсітэце, а, з другога боку, вывучэнне Беларусі ў розных галінах займала галоўнае месца. Толькі дзякуючы ўсебаковаму вывучэнню Беларусі ва Універсітэце шырока павялічылася краязнаўчая праца на Беларусі, а з агульнага ліку студэнтаў маглі выдзеліцца асобы, якія па сваёй падрыхтоўцы былі годны для застаўлення пры Універсітэце ў якасці аспірантаў.

Акрамя гэтага, трэба сказаць, што студэнты, якія атрымалі значныя веды па гісторыі Беларусі, могуць быць вельмі карыснымі працаўнікамі і ў школе.

Той праект, які абгаварваўся ў Праўленні Ун-та, парушае агульную мэтаўстаноўку Універсітэта і ставіць беларускія прадметы ў такое становішча, пры якім фактычна скасоўваецца вывучэнне гісторыі Беларусі і яе культуры, адступаючы на задні план, і перастае быць цэнтрам вывучэння ва Універсітэце.

Згодна планам педфака на ўсе прадметы па беларусазнаўству адводзілася 40 гадзін. Згодна прапазіцыі т.Слоніма, на ўсе прадметы па гісторыі Беларусі, я разумею сацыяльна-гістарычнае аддзяленне, было адведзена 24 гадзіны. Скасаванне цэлага шэрагу курсаў і самы падзел курсаў і лік гадзін выклікае цэлы шэраг спрэчак.

На 1-м курсе быў выкінуты агульны курс па гісторыі беларускай культуры. Гэты курс уводнага характару меў, безумоўна, вялікае значэнне, бо ён уводзіў у вывучэнне іншых беларускіх прадметаў. Толькі на падставе гэтага курса было магчыма чытаць іншыя курсы. Замест гэтага на другім курсе Педфака ўводзіцца гісторыя Беларусі да падзелаў пры 2-х гадавых гадзінах. Толькі не зусім яснае прадстаўленне аб тым матэрыяле, які трэба ўкласці ў гэты курс, можна было паставіць гэткі вялікі курс на 2-м курсе. Найгоршы метад выкладання — гэта, калі пытанне надзвычайнага характару разглядваецца вельмі павярхова. Гэткае выкладанне прадмета з'яўляецца шкодным з боку метада, бо лекцыя, як яна ёсць, павінна быць узорнай у якасці метада. На лекцыях прафесара студэнт павінен знаёміцца з тым, як наогул трэба выкладаць прадмет. Вось чаму я лічу, што скарачэнне на 1-м курсе гісторыі Беларусі з'яўляецца немэтазгодным. Гэткі курс чытаўся на 1-м курсе на працягу 7 год, неабходнасць гэтага курса была відавочна. Тады агульныя курсы па гісторыі Беларусі будуць наступнымі: гісторыя Беларусі XVI—XVII ст., гісторыя Беларусі ў часы новыя і гісторыя Беларусі эпохі Кастрычніка.

Не магу таксама згадзіцца са скасаваннем курса па гісторыі народнай гаспадаркі Беларусі. Тое становішча, што гісторыя павінна вывучацца на падставе народнай гаспадаркі, гэта з боку метада ясна, але гэта не можа з'яўляцца прычынаю таго, каб курс быў скасаваны. Сацыяльна-эканамічная гісторыя кожнай краіны ахоплівае цэлы шэраг пытанняў. Безумоўна, прымаючы пад увагу невялікую колькасць гадзін, усе гэтыя пытанні будуць распрацаваны не вельмі падрабязна, і народная гаспадарка будзе прадстаўлена ў агульных рысах, а не так, як гэтага патрабуе сам прадмет па сваёй цікавасці.

Калі гісторыя гаспадаркі будзе раскінута на чатыры гады, дык у студэнтаў не будзе яснага прадстаўлення аб народнай гаспадарцы Беларусі, аб аруйнаванні старога буржуазнага эканамічнага ладу і аб пераходзе да пабудовы сацыялістычнага ладу. Скасаванне гісторыі народнай гаспадаркі Беларусі з'яўляецца вялікаю памылкаю як з боку вывучэння Беларусі, гэтак сама і з боку метада.

Кожны студэнт, які скончыў педфак, павінен ведаць крыніцы і крыніцазнаўства Беларусі. Кожнаму студэнту з гэтымі пытаннямі трэба сустракацца ў часы сваёй працы, і было б вельмі дзіўна, каб студэнты вывучалі гісторыю культуры сваёй краіны і ў той час не ведалі б, на падставе якіх крыніц, матэрыялаў можна складаць гісторыю народа, і якім тэмпам, у якім напрамку ішло вывучэнне Беларусі ў часы царскага Урада і ў часы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Скасаванне гэтага курса толькі сведчыць аб тым, што тут маецца незнаёмства з самою сутнасцю курса і яго метадалагічнага і практычнага значэння. Калі ў сучасны момант дзяржаўны ўрад выдае розныя законы адносна архіўнай справы, і студэнтам у сваёй практычнай працы прыходзіцца сустракацца з гэтымі пытаннямі, то мне здаецца, што яны амаль што не могуць быць добрымі працаўнікамі, калі яны па гэтаму пытанню не будуць мець элементарных ведаў.

Таксама трэба сказаць і адносна курса па гісторыі асветы на Беларусі. Безумоўна, што з сучаснымі школамі і з сучаснай палітыкаю па народнай асвеце студэнт азнаёміцца на адпаведных лекцыях. Але гісторыя асветы на Беларусі з'яўляецца цікавым момантам, які сведчыць аб культурным прыгнечанні беларускага народа, як у часы польскага панавання, гэтак сама і ў часы расійскага панавання. Толькі тады можна зразумець вялікае значэнне сучаснай палітыкі Народнага Камісарыята Асветы, калі будзе знаёма старая палітыка па народнай асвеце. Таксама гісторыя асветы на Беларусі можа вельмі ясна паказваць, як адбіваецца класавая і рэлігійная палітыка на становішчы шырокіх народных мас у справах асветы. Мне здаецца, скасаванне гэтага курса з'яўляецца немэтазгодным з прычыны таго, што вельмі цікавая старонка прыгнечання беларускага народа будзе зусім незнаёма студэнтам Ун-та.

Лічачы, што семінарскія заняткі з боку метада актыўнага з'яўляюцца неабходнымі, я таксама думаю, што скасаванне семінарскіх заняткаў на 1-м курсе па гісторыі Беларусі, як і па іншых нацыянальных прадметах, з'яўляецца вельмі памылковым, асабліва прымаючы пад увагу, што нашы студэнты атрымліваюць вельмі дрэнную падрыхтоўку, а семінарскія заняткі даюць метад і магчымасць больш адпавядаючым чынам праходзіць з большым поспехам розныя навукі на наступных курсах.

На працягу папярэдніх гадоў на сацыяльна-гістарычным аддзяленні выкладаліся курсы гісторыі заходніх славян (факультатыўна) і гісторыя эканамічнага развіцця сярэдніх вякоў (таксама факультатыўна). Гэтыя два курсы выкладаліся выдатным спецыялістам, і па свайму зместу і па метаду маюць, безумоўна, вялікае значэнне. Разумець развіццё беларускай буржуазнай культуры без знаёмства з гісторыяй Чэхіі і прыбалтыцкага славянства з'яўляецца немагчымым. Студэнты гэта добра зразумелі і вельмі ўважліва слухалі гэты курс. У той самы час, калі ва ўсіх універсітэтах усяго свету адводзіцца шмат увагі вывучэнню славянства, з'яўляецца вельмі дзіўным, што Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт не знаходзіць магчымым прыняць удзел у гэтым агульным руху і пазнаёміць студэнтаў з гісторыяй сваіх бліжэйшых суседзяў, з якімі ў старыя часы, а таксама і ў новыя часы, і ў цяперашнія часы маюцца культурныя і эканамічныя адносіны. Эканамічная гісторыя сярэдніх вякоў з'яўляецца ўводзінамі ў вывучэнне гаспадаркі эпохі прамысловага капіталу, дае шмат матэрыялу з боку метадалагічнага; гэта добра зразумелі студэнты, калі яны слухалі гэты курс. З прычыны гэтага лічу, што скасаванне гэтага курса, хаця бы па поглядах матэрыяльнага характару, было б, безумоўна, няправільна. Асабліва калі прыняць пад увагу, што гэты курс чытаў выдатны спецыяліст па сярэдневяковай гісторыі, сябар Чэшскай Акадэміі Навук.

Вось якія мае заўвагі адносна сацыяльна-гістарычнага аддзялення Педфака па класу беларусазнаўства.

Што датычыцца да літаратурна-лінгвістычнага аддзялення, то знаходжу неабходным сказаць наступнае:

Я лічу неабходным заставіць на 1-м курсе прасемінар па пралетарскай расійскай паэзіі. Гэты прасемінар мае прапедэўтычнае значэнне. Нашы студэнты, уступаючы ва Універсітэт, не здольны чытаць пісьменнікаў. Яны зусім не ведаюць літаратуры. На 1-м курсе яны знаёміліся з пісьменнікамі, прывучаліся іх разбіраць і пісаць даклады. Выкрасленне гэтага курса з'яўляецца, мне здаецца, таксама памылкаю. Вельмі дзіўным з'яўляецца скасаванне семінарскіх заняткаў па этнаграфіі Беларусі, той самай этнаграфіі, якую раней за ўсё павінен ведаць студэнт Педфака, які працуе на вёсцы. Толькі тады, калі ён на семінарсіх занятках заўладае метадам абірання і вывучэння этнаграфічнага матэрыялу, ён можа быць сталым працаўніком і краязнаўцам.

Па гэтых думках я лічу немэтазгодным скасаванне семінара па гісторыі беларускага мастацтва. Гэта навука новая, адкрытая толькі пасля Кастрычніка ў мурах Беларускага Ун-та. Яна павінна даць студэнтам метад вывучэння мастацтва з боку марксісцкага погляду. Скасаванне семінара — метадалагічная памылка, якая толькі дасць студэнтам агульныя веды па гісторыі мастацтва і не дасць студэнтам метада вывучэння мастацтва. Аб далейшым паглыбленні і самастойных занятках студэнтаў па гісторыі мастацтва не можа быць і гутаркі.

Не магу таксама згадзіцца і са скасаваннем курса культуры і літаратуры Беларусі XVI і XVII стагоддзя на IV курсе літаратурна-лінгвістычнага аддзялення. Гэты курс выкладаўся на працягу 5 год і з'яўляецца ўводзінамі ў літаратуру новых часоў. Літаратурнае ўтварэнне беларускай мовы і заняпад апошняй пад уплывам іншых культур можна выявіць толькі на падставе гэтай літаратуры. Яна таксама вельмі цікава як паказальнік індывідуалістычных напрамкаў у літаратуры, якія закраналі буржуазныя класы. Вывучэнне літаратуры эпохі Кастрычніка, яе росквіт і значэнне для пралетарскіх мас стане асабліва ясным, калі будзе вывучана буржуазная культура, якая праходзіла міма працоўных мас.

Таксама лічу, што скасаванне гісторыі Беларусі новага часу на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні на 2-м курсе з'яўляецца няправільным. Студэнты-лінгвісты павінны мець яснае прадстаўленне аб гісторыі Беларусі ў новыя часы, бо тады і развіццё новай літаратуры стане зусім незразумелым.

Не магу таксама згадзіцца са скарачэннем факультатыўнага курса па гісторыі ўкраінскай літаратуры. Гэты курс мае вялікае значэнне, бо толькі дзякуючы яму студэнты могуць азнаёміцца з рысамі ўкраінскай літаратуры. У сучасны момант, калі пралетарскія пісьменнікі Украіны і Беларусі вельмі часта сустракаюцца паміж сабою, паміж Беларуссю і Украінай маюцца сталыя культурныя адносіны, было б вельмі дзіўным, каб нашы студэнты не ведалі зусім Украіны як такой нацыянальнай часткі, якая займае адно з галоўных месц у нашым Саюзе.

Што датычыцца да праграм факультэта права і гаспадаркі, то я лічу памылковым скасаванне практычных заняткаў па эканамічнай геаграфіі Беларусі. Эканамічная геаграфія Беларусі ёсць навука апісальная. Яна грунтоўна тым, што дае канкрэтны матэрыял для зразумення іншых прадметаў, як эканоміка прамысловасці на Беларусі, гандлю і г.д. Практычныя заняткі па эканамічнай геаграфіі Беларусі з'яўляюцца неабходнымі, бо толькі яны могуць навучыць студэнта апрацоўваць канкрэтны матэрыял па эканамічнай геаграфіі.

Выкладанне гэтага курса толькі лекцыйным метадам не прадстаўляе сабой сэнсу.

Застаўляючы ўсе гэтыя прадметы як прадметы першараднага значэння, я тым самым застаўляю за Беларускім Дзяржаўным Універсітэтам яго краявы характар, які ён павінен мець на падставе дырэктыў Урада. Безумоўна, росквіт Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта і яго культурнае значэнне толькі можна тлумачыць тым краявым характарам, які ён меў да сучаснага моманту.

Прыняцце іншых навучальных планаў было б палітычнаю памылкаю, вялікім ударам па беларусізацыі краіны, што супярэчыць і прынцыпам нацыянальнай палітыкі на Беларусі.

У Беларускім Дзяржаўным Універсітэце не толькі беларуская мова павінна быць моваю выкладання, але беларускі універсітэт і па зместу прадметаў павінен быць беларускім.

Што датычыцца да прапазіцыі адносна персанальнага скарачэння тых ці іншых выкладчыкаў, то знаходжу неабходным выказаць наступнае.

Згодна палажэння аб навуковых працаўніках, кожны працаўнік ва Універсітэце знаходзіцца пад аховаю закону, калі яго дзеянні не супярэчаць агульным прынцыпам палітыкі Савецкага Саюза. З прычыны гэтага было б юрыдычна няправільным і памылковым, каб становішча таго ці іншага выкладчыка ва Універсітэце залежала ад той ці іншай колькасці курсаў, якія выкладаў выкладчык. Трэба лічыцца з Палажэннем аб навуковых працаўніках, бо ў супраціўным выпадку навуковыя працаўнікі будуць знаходзіцца па-за законам, і ніякая праца ў Беларускім Дзяржаўным Універсітэце стане немагчымаю.

Згодна праекта т.Слоніма, прафесар Парменаў павінен пакінуць універсітэт, бо ён не адпавядае свайму прызначэнню. Я згаджаюся з тым, што праф.Парменаў не з'яўляецца, як паказаў навучальны год, выдатным спецыялістам у сваёй навуцы, не заўсёды з'яўляецца свядомым у сваёй галіне навукі, выказваючы часта думкі, якія не маюць за сабою падставы і супярэчаць прынцыпам палітыкі савецкай улады. З прычыны гэтага я лічу, што трэба шукаць іншага выкладчыка на прадметы, якія выкладаў праф.Парменаў, які будзе павінен пакінуць універсітэт з прычыны таго, што ён не адпавядае па сваім эканамічным думкам савецкай грамадскасці.

Праўленне Ун-та павінна прыняць мерапрыемства, каб знайсці новага выкладчыка.

Што датычыцца да скарачэння персанальнага складу на Педфаку, то лічу неабходным сказаць наступнае.

Калі тое, што інкрымінуецца праф.Жарынаву, падцвердзіцца, то ён, як адбыўшы 7 год службы ва Універсітэце, не можа быць перабраны. 2 іншых выкладчыкі, Даўгяла і Краскоўскі — беларусы, і не могуць быць аслабанены ад выкладання ва Ун-це. Даўгяла з'яўляецца выдатным спецыялістам, які шмат працаваў у галіне беларусазнаўства, і які з'яўляецца, згодна сваім навуковым ведам, аздобаю Ун-та, і аслабаненне яго ад заняткаў было б вельмі шкодным. То, што яму інкрымінуецца, мне здаецца, не мае пад сабою ніякай падставы. На працягу 4 год працы ва Ун-це, а яшчэ раней Даўгяла працаваў у Магілёўскім педтэхнікуме і з 1918 году, па прызначэнню Цэнтрархіва, працаваў у Магілёве, сведчыць аб тым, што тое, што інкрымінуецца т.Даўгяла, не мае за сабою падставы. У 1918 годзе, калі я быў Галоўным інспектарам Цэнтрархіва РСФСР, Даўгяла быў прызначаны як старшыня Магілёўскага архіва, і да прызначэння яго мы запрашвалі спраўкі ў адпаведных органах, якія ніякіх адмоўных водзываў аб т.Даўгяла не далі. Выключэнне Даўгяла без усялякіх матываў са складу працаўнікоў Ун-та толькі з тое прычыны, што, згодна праекта т.Слоніма, той курс, які ён выкладаў, павінен быць скасаваны, будзе няправільным і вельмі небяспечна для навуковых працаўнікоў. Пры гэткім метадзе можна скасаваць які жадаецца курс, прыміцельна да кожнай асобы і без усялякіх законных асноў аслабаніць выкладчыка ад працы ва Ун-це.

Тав.Краскоўскі, які быў добра вядомы як удзельнік у беларускім руху за межамі, якому было дазволена звярнуцца ў БССР, і які быў прызначаны т.Ігнатоўскім, як народным камісарам асветы, дацэнтам у Беларускім Дзяржаўным Універсітэце, таксама з'яўляецца цікавым дзеячом. Было б немэтазгодным, каб Ун-т ад яго аслабаніўся. Абодва дзеячы выкладаюць лекцыі на беларускай мове і з боку беларусізацыі яны таксама з'яўляюцца вельмі цікавымі.

Тав.Слонім прызнаў, што праф.Вазнясенскі, які быў прызначаны прафесарам толькі ў гэтым годзе, з'яўляецца вельмі цікавым навуковым працаўніком. З прычыны таго, што частка яго курса скарачаецца, і ў Вазнясенскага не будзе шмат гадзін, ён таксама павінен пакінуць Ун-т. Такія думкі т.Слоніма з'яўляюцца дзіўнымі і сведчаць аб поўнай няўвазе да навуковых працаўнікоў і іх працы ва Ун-це, а таксама да таго Палажэння аб навуковых працаўніках, якое было выдадзена Саветам Народных Камісараў.

Трэба прызнаць, што праф.Вазнясенскі з'яўляецца вялікім энтузіястам у сваёй навуцы. Цэлы шэраг прац па беларускай літаратуры сведчаць аб тым, што А.Н.Вазнясенскі ўкараніўся на Беларусі, а гэткіх укараніўшыхся асоб, згодна думцы адказнага сакратара ЦК КП(б)Б т.Крыніцкага, і быўш. народнага камісара асветы т.Ігнатоўскага, трэба асабліва шанаваць. Расеец па свайму паходжанню, праф.Вазнясенскі азнаёміўся добра з беларускаю моваю. Як выкладчык і кіраўнік практычнымі заняткамі, ён з'яўляецца адным з найлепшых выкладчыкаў ва Ун-це. З боку метадалагічнага ён не выклікае ніякіх спрэчак, яго артыкулы друкаваліся і друкуюцца ў марксісцкіх часопісах. Значыцца, і ў гэтым напрамку няма ніякіх спрэчак. І вось гэткага выдатнага працаўніка т.Слонім, без дасканалых асноў, супраць Палажэння аб навуковых працаўніках, лічыць неабходным аслабаніць. Мы не так багаты навуковымі сіламі, каб аслабаняцца ад тых, якія ўкараніліся на Беларусі, і якія на працягу 7 год з энтузіязмам працавалі ў сценах Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта.

Што датычыцца да гадзін, то гадзіны павінны быць размеркаваны належным чынам паміж усімі выкладчыкамі, тым больш, што праф.Вазнясенскі працуе толькі ва Ун-це, а праф.Замоцін і дац.Барычэўскі працуюць у Інбелкульце. Акрамя гэтага, Замоцін працуе на Рабфаку, а Барычэўскі — у Камвузе. Вось чаму прапазіцыя т.Слоніма адносна праф.Вазнясенскага з'яўляецца вельмі дзіўнаю.

Таксама магу дзівіцца прапазіцыі т.Слоніма адносна аслабанення ад выкладання ва Ун-це праф.Ясінскага, праўдзейнага сябра Інстытута Беларускай культуры і праўдзейнага сябра Чэшскай Акадэміі Навук. Гаварыць аб навуковых заслугах Ясінскага не трэба. Кожны навуковы працаўнік іх добра ведае. Праф.Ігнатоўскі і праф.Дружчыц, якія былі непасрэднымі вучнямі Ясінскага, таксама добра ведаюць. Упаўне зразумела, што б наркамасветы т.Ігнатоўскі прапанаваў праф.Ясінскаму працаваць у Беларускім Дзяржаўным ун-це. Яго праца, як выдатнага спецыяліста, не толькі карысна для студэнтаў, але таксама і для спецыялістаў, якія павінны прыслухвацца да яго голасу і ўваг. Аслабаненне праф.Ясінскага ад выкладання лекцый ёсць вялікая памылка, непаразуменне, якое ўтворыць нядобрае ўражанне на ўсіх выкладчыкаў Ун-та, а таксама за межамі. Трэба шанаваць навуковыя сілы, асабліва, калі гэтыя навуковыя сілы працуюць і вельмі добра працуюць на карысць працоўных мас. У 1919 годзе, у часы вялікага голаду, Чэшская Акадэмія Навук прасіла праф.Ясінскага пераехаць у Прагу, і ён адмовіўся ад гэтай прапановы, бо ад'езд з Расіі, нягледзячы на тое, што супраць ад'езду не было ніякіх спрэчак, не адпавядаў яго поглядам. Тав. Ігнатоўскі можа падцвердзіць, як праф.Ясінскі цікавіўся грамадска-нацыянальным рухам, як ён адносіўся ва Ун-це ў Юр'еве да студэнтаў-беларусаў, якія былі прымушаны вучыцца ў Юр'еўскім Ун-це. Цікавасць выкладчыка ва Ун-це залежыць не ад колькасці гадзін, а ад таго навуковага і маральнага ўплыву, які ён аказвае на студэнтаў і сваіх таварышаў. Для Ун-та праф.Ясінскі прадстаўляе не толькі вялікую навуковую велічыню, але і маральную, і яго аўтарытэт, яго голас мае вялікае значэнне для ўсіх яго таварышоў па кафедры, якія яго шануюць і адносяцца да яго з вялікай ўвагаю. І так зрабіць з праф.Ясінскім, як прапануе т.Слонім, безумоўна, з'яўляецца няправільным.

Тры гады таму назад, па ініцыятыве часткі студэнтаў, Прадметная Камісія па гістарычных ведах скасавала цэлы шэраг беларускіх дысцыплін. Праўленене Ун-та ў той самы час спыніла рашэнне Камісіі, а і Нар.Кам.Асветы была пададзена петыцыя ад беларускіх працаўнікоў, з паказаннем на тое, што гэта пастанова ёсць паход супроць беларусізацыі краявога Ун-та. Нар.кам.Асветы прапанаваў Праўленню Ун-та даць растлумачэнне па гэтаму пытанню і без яго згоды не змяншаць агульнай колькасці беларускіх прадметаў. Безумоўна, апошні голас па ўсіх гэтых пытаннях належыць да Народнага Камісарыята Асветы. Універсітэт павінен падлегчы распараджэнням вышэйшых органаў — гэта ясна.

У заключэнне я павінен адзначыць, што т.Слонімам не прыняты пад увагу ўсе магчымыя вынікі яго прапазіцыі. Выключэнне без усялякіх асноў цэлага шэрагу працаўнікоў, якія працавалі ва Ун-це і маюць заслугі перад беларускай і савецкай грамадскасцю, з'яўляецца здарэннем вельмі небяспечным. Гэта будзе толькі сведчыць аб бяспраўным становішчы выкладчыкаў ва Універсітэце, што супярэчыць Палажэнню аб навуковых працаўніках. І з прычыны гэтага гэта не можа не ўтварыць дрэннага ўражання на выкладчыкаў Ун-та. Нам трэба замацоўваць за Беларуссю тых, якія з'яўляюцца цікавымі працаўнікамі, і так паступаць з навуковымі працаўнікамі, як прапануе т.Слонім, гэта значыць прымусіць іх шукаць месца за межамі Беларусі. Калі ні навуковыя заслугі, ні ўкараненне на Беларусі, ні Палажэнне аб навуковых працаўніках не замацоўваюць становішча працаўніка ва Ун-це, то кожны з працаўнікоў будзе думаць так: "Сягоння так паступілі з маімі таварышамі, заўтра са мною — трэба пакідаць Ун-т". Рэалізацыя ўсіх планаў і думак т.Слоніма ёсць фактычна пачатак распаду Ун-та, і гэта палітыка не можа быць тлумачана ніякімі аб'ектыўнымі і суб'ектыўнымі момантамі.

Рэктар Ун-та У.ПІЧЭТА.

НАРБ, ф.4, воп.7, спр.194, арк. 23 — 24.

